ГАЗЕТА З БЕЛАРУСІ

# ГОЛАС РАДЗІМЫ

ВЫДАЕЦЦА З 1955 ГОДА ● ● NO.14 (3134) ● ● ЧАЦВЕР, 16 красавіка, 2009

ШТОТЫДНЁВІК "ГОЛАС РАДЗІМЫ" МОЖНА ЧЫТАЦЬ У ІНТЭРНЭЦЕ: WWW.GOLAS.BY













ГОД РОДНАЙ ЗЯМЛІ

# "Дзе Сафійка плыве над Дзвіною..."

## Людзям з полацкімі адмецінамі ў біяграфіях і сэрцах цёпла было душою ў Музеі гісторыі і культуры Беларусі

**Іван Ждановіч**

Толькі пазайздросціць палачанам! Спрабаваў неяк і адзін мой зямляк сабраць у Мінску клуб ураджэнцаў Ляхавіччыны, ды з тае ідэі нічога не атрымалася. А вось у "слаўнага горада Полацка", кажучы Скарынавымі словамі, аказалася дастаткова моцным і гістарычнае, і культурнае, і духоўнае ядро, каб такое яднанне адбылося. Паэтычным камертонам, што задаваў танальнасць вечарыне, збору полацкага зямляцтва, стаў караткевічаў радок "Там, дзе вежы Сафіі..." Таму і агульны настрой сустрэчы атрымаўся лірычным: было бачна, як землякі атрымлівалі асалоду ад таго, што яны разам, а яшчэ — ад успамінаў, вершаў, музыкі, спеваў... Іх шмат гучала ва ўтульнай прасторы музея, упрыгожанай карцінамі, інсталяцыямі, скульптурамі людзей з "полацкай закваскай" — выставу спецыяльна да сустрэчы падрыхтаваў Алег Ладзіс.

Між іншым, пісьменнік-палачанін, аўтар вядомай кнігі-прызнання гораду ў любові "Таямніцы Полацкай гісторыі" Уладзімір Арлоў згадваў на вечарыне і прароцтва шасцісотгадовай даўнасці наконт таго, што ў XXI стагоддзі яго родны Полацк зноў зробіцца сталічным горадам. Скептыкі, вядома ж, могуць пасмейвацца... Але ж на нашых вачах летась адзін з самых славутых гарадоў на абшарах зямлі беларускай набыў статус геаграфічнага цэнтра Еўропы. І, калі задумацца, ужо сёння горад з яго выключна багатай гісторыка-культурнай спадчынай няўхільна становіцца адной з духоўных сталіц краіны. І менавіта палачане, як адзначыў на вечарыне дырэктар музея Сяргей Вечар, у даўнія часы стварылі магутную дзяржаву — Полацкае княства, якая прасціралася ажно да Балтыкі і стала падмуркам для фармавання сучаснага беларускага этнасу. Так, неацэнных духоўных скарбаў назбіралі для нашчадкаў слынныя палачане. Кожны беларус ведае пра Ефрасінню Полацкую, Усяслава Чарадзея, Рагнеду, Францыска Скарыну і многія іншыя асобы. Таму абсалютна зразумела, чаму з Полацка ў Год роднай зямлі музей пачаў шэраг адметных выстаў і сустрэч. Каб агледзець традыцыі ў іх сучасным выяўленні, арганізатары сабралі разам тых людзей, хто дбае пра росквіт як зямлі Полацкай, так і ўсёй Беларусі.

➔ Стар. 2



ГЕОРГИЙ ШАБЛЮК

Сафійскі сабор — адна з галоўных славутасцяў Полацка

ВЕСТКІ

### Бліжэй адзін да аднаго

**Ветэранскія арганізацыі Польшчы і Беларусі маюць намер умацоўваць кантакты**

Дапамагчы наладзіць больш цеснае супрацоўніцтва паміж ветэранамі і ўдзельнікамі вайны, якія жывуць у дзвюх краінах, бярэцца беларускае пасольства ў Польшчы. Гэтае рашэнне пацверджана падчас сустрэчы пасла Беларусі ў Польшчы Віктара Гайсёнка са старшынёй Саюза ветэранаў і былых палітычных вязняў Польшчы Генрыкам Стшэлецкім. У гутарцы з паслом Генрых Стшэлецкі цікавіўся дзейнасцю Беларускага грамадскага аб'яднання ветэранаў. Віктар Гайсёнак расказаў кіраўніку польскага ветэранскага руху аб падрыхтоўцы да святкавання 65-й гадавіны вызвалення Беларусі.

### Аб мінулым — дзеля будучыні

**Турысцкі маршрут "Барысаўскія старонкі Халакосту" распрацаваны ў Мінскай вобласці**

Экскурсійны шлях пралягае праз Барысаў, вёскі Зембін і Мсціж, пасёлак Чырвоны Кастрычнік. Гэтыя месцы звязаны з трагічнымі падзеямі 1941–1944 гадоў. У Барысаве падчас нямецка-фашысцкай акупацыі было створана гета, на ўскраіне горада карнікі знішчылі больш за сем тысяч чалавек. У вёсках Зембін і Мсціж, пасёлку Чырвоны Кастрычнік таксама расстрэльвалі людзей — там усталяваны памятныя знакі, манументы.

# Інавацыйная перамога

## Праграмныя распрацоўкі рэзідэнта беларускага Парка высокіх тэхналогій кампаніі "Сакрамент ІТ" адзначаны ўзнагародай "Прадукт года 2008"

**Аляксей Арэшка**

Перамога атрымана ў вельмі прэстыжнай намінацыі: за самы інавацыйны прадукт. І гэта пры тым, што каля 2000 новых праграм было апублікавана ў каталогу папулярнага інтэрнэт-магазіна Allsoft.ru.

Мы ўжо расказвалі як пра адметныя камп'ютарныя праграмы, так і пра саму мінскую кампанію, якая займаецца сінтэзам мовы, у тым ліку і беларускай. "Прыемна, што незалежныя эксперты ў чарговы раз пацвердзілі высокі інавацыйны ўзровень нашай работы, у прыватнасці, нашай праграмы Sakrament BookAssist, — пракаменціраваў навіну дырэктар кампаніі "Сакрамент ІТ" Валерый Ягораў. — Пра сам прадукт магу сказаць, што ён вельмі просты ў карыстанні, а таму для многіх даступны як сродак стварэння электронных мультымедыйных бібліятэк. Практычна ўсе, хто ўмее абыходзіцца з персанальным камп'ютарам ці мабільнымі ўстройствамі, могуць нашай праграмай карыстацца".

Валерый Ягораў мяркуе, што немалаважнае значэнне для перамогі мела і сацыяльная скіраванасць беларускай распрацоўкі. "Дзякуючы сваім унікальным функцыям праграма ўжо шырока скарыстоўваецца людзьмі, у якіх ёсць парушэнні зроку і слыху, — удакладніў ён. — У прыватнасці, мы перадалі пакеты нашых распрацовак у беларускія спецшколы і чуем за гэта шмат удзячных слоў ад Міністэрства адукацыі, а таксама ад настаўнікаў і бацькоў вучняў".

Дарэчы, цяпер спецыялісты "Сакрамент ІТ" пайшлі ў рабоце яшчэ далей і могуць падрыхтаваць усе камплекты школьных падручнікаў, ад першага да выпускнога класа, у электронным выглядзе. А гэта можа зэканоміць значныя бюджэтныя сродкі.

І яшчэ пра перамогу. Эксперты адзначаюць, што кампанія "Сакрамент ІТ" прадэманстравала як найлепшую якасць прадукцыі, так і самае актыўнае ўкараненне сваіх рашэнняў.




За такія распрацоўкі і цэняць

ГОД РОДНАЙ ЗЯМЛІ

# “Дзе Сафійка плыве над Дзвіною…”

(Заканчэнне. Пачатак на стар. 1)

З вершаў пачаў прызнанне ў любові “святому на зямлі месцу” паэт Навум Гальпяровіч. Шчырыя словы знайшоў для Полацка і ганаровы грамадзянін горада, былы партызан і франтавік, пісьменнік Алесь Савіцкі. Ён выказаў надзею, што нядаўна створанае полацкае зямляцтва будзе ўмацоўваць повязь і вякоў, і людзей-палачан, якія жывуць па ўсім свеце. “Я тут нарадзіўся, вырас, жыву, я, можа тысячы разоў зыходзіў з Полацка — і вяртаўся дадому: у розных іпастасях, у розныя часы, і з рознымі вятрамі. А горад заўсёды ласкава мяне сустракаў”, — прызнаўся 85-гадовы ветэран.

Сёння далёка вядомы Полацкі нацыянальны гісторыка-культурны запаведнік, у якім 11 розных музеяў. Выказвалася вялікая ўдзячнасць Мікалаю Ільніцкаму, які 15 гадоў яго ўзначальваў, і меркаванне, што з часам старая частка Полацка ўвогуле набудзе статус горада-музея. На вечарыне згадваліся імёны іншых вядомых людзей, чые жыццё і творчасць моцна знітаваны з Полацкам: аднаго са стваральнікаў беларускай літаратуры Яна Баршчэўскага, мастака Валенція Ваньковіча, мастачкі Нінэль Шчаснай, кампазітара Мікалая Пятрэнкі (аўтара песні “Ручнікі”, што стала народнай), ганаровай грамадзянкі Полацка паэтэсы Надзеі Салодкай, лаўрэатаў Дзяржаўнай прэміі паэтаў Валянціна Лукшы, Генадзя Бураўкіна, пісьменнікаў Тараса Хадкевіча, Пётры Васючэнкі, архітэктара Валерыя Слюнчанкі (аўтара праектаў рэстаўрацыі ўсіх галоўных архітэктурных помнікаў горада)…

Старшыня Полацкага гарсавета Вольга Ждановіч падкрэсліла, што ў Год роднай зямлі палачане маюць намер яшчэ часцей звяртацца да слаўнай гісторыі, заахвочваць моладзь да спасціжэння духоўных скарбаў вялікіх землякоў, “каб кожны з маладых, дзе б ні быў, мог услед за Францыскам Скарынам сказаць: я са слаўнага Полацка родам”.

Полацк, першую ў гістарычным часе беларускую сталіцу, яго ўраджэнцы любяць па-рознаму: збіраюць пра яго паштоўкі, як вядомы наш аўтар Уладзімір Ліхадзедаў, прысвячаць яму творы мастацтва, здымаюць пра калыску беларускай гісторыі фільмы, прывозяць сяброў на знаёмства з ім… На вечарыне Полацк называлі “радзімай душы”, “альфай і амегай” творчага сталення, гаварылі нават, што “з Полацка пачаўся свет” і пра такое паняцце, як полацкі менталітэт.

“Над хваламі Дзвіны і Палаты/ Званамі Вечнасць слухае Сафія./ То пойдзем разам, сёстры і браты,/ У Полацак…” Такімі вершамі на пачатку лета 1995-га мы з сябрамі збіралі ў Мінску жадаючых выправіцца ў пешае паломніцтва. І пераканаліся, наколькі ж моцнае прыцягненне Полацка сярод людзей з розным сацыяльным статусам. Зрэшты, і сёння мы, калі разважыць, нябачна набліжаемся да горада штораз, як толькі спасцігаем мудрасць, “сафію” вялікіх палачан, альбо народжаныя пад ягоным уплывам паэзію, музыку, творы мастацтва. Сапраўды, слаўны Полацк даўно стаў і славаю Беларусі, і часткаю нашага менталітэта.


У музеі спяваюць салісткі полацкага гурта “Радзімічы”


УЛАДЗІМІР ЖДАНОВІЧ

Ва ўсіх гэтых людзей ёсць у біяграфіях полацкія старонкі

# Парыжскія прароцтвы Ежы Гедройца

## Імем гэтага дзеяча культуры названа вуліца ў Мінску — тут ён нарадзіўся. А ўзнагароду яго імя нядаўна атрымала і рэдакцыя нашай газеты.

**Іван Іванаў**

Ежы Гедройц больш за 50 гадоў рэдагаваў у Парыжы часопіс “Kultura”: з 1947-га і да самай смерці на пачатку восені 2000 года. “Штомесячнік, які рабіўся на высокім прафесійным узроўні, вырока асвятляў і культурнае жыццё як Беларусі, так і Украіны, Расіі, — расказаў на цырымоніі ўручэння прэмій для журналістаў імя Ежы Гедройца ў Польскім інстытуце ў Мінску прафесар Адам Мальдзіс. — Прычым выходзілі нумары і на рускай мове, а ў Беларусі меўся шырокі аўтарскі актыў. Дарэчы, цяпер па завяшчанні нашага земляка выдаецца цікавы штоквартальнік “Zeszyty Historyczne” (“Гістарычныя сшыткі”), які дасылаецца з Парыжа і ў рэдакцыю газеты “Голас Радзімы”. А людзі культуры і ў Польшчы, і ў Беларусі называюць Гедройца двума словамі, пішучы іх з вялікай літары: Рэдактар і Прарок. Пагадзіцеся, больш за паўстагоддзе рэдагаваць такое выданне — сапраўды тытанічная праца. А прароцтвы яго былі звязаны з тым, што наш суайчыннік прадбачыў “незалежнасць Украіны, Літвы і Беларусі” — менавіта ў такім парадку называючы краіны”.

Што тычыцца часопіса “Kultura”, то менавіта ўраджэнцы Беларусі падтрымалі ідэю яго выдання. “У прыватнасці, самымі актыўнымі супрацоўнікамі рэдакцыі былі Юзаф і Марыя Чапскія, унукі графа Эмерыка фон Гутэн-Чапскага, 180-годдзе якога сёлета адзначаецца і ў Беларусі, — удакладніў А.Мальдзіс, спасылаючыся на матэрыялы міжнародных канферэнцый, выкладзеныя ў кніжках “Ежы Гедройц і Беларусь” і “На ушанаванне памяці Ежы Гедройца”. — Нягледзячы на сталы ўзрост, яны цалкам прысвячалі сябе культурнай рабоце, мелі вялікую перапіску, часта і за свой кошт: бо часопіс выдаваўся на добраахвотныя ахвяраванні. Тым часам Марыя Чапская пісала кнігу “Еўропа ў сям'і”, з якой мы даведваемся, што ў станькаўскіх графаў былі ў сваяцтве прадстаўнікі ці не ўсіх еўрапейскіх краін. А Юзаф, аказваецца, не толькі рабіў малюнкі для выдання, дзякуючы яго высілкам там друкаваліся, скажам, творы Салжаніцына”.

Атрымліваў у свой час з выдання “Kultura” лісты і Адам Мальдзіс, а ў 1999 годзе быў запрошаны ў Парыж на аўтарытэтную навуковую канферэнцыю, фактычным гаспадаром якой быў Ежы Гедройц. Ад імя Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў госць павязаў земляка тканым беларускім поясам, чым яго вельмі расчуліў. Адам Восіпавіч цяпер прыкладвае нямала намаганняў для ўшанавання памяці Ежы Гедройца ў Беларусі. У прыватнасці, нядаўна яго імем названа адна з новых мінскіх вуліц, што ў раёне праспекта Дзяржынскага. Магчыма, з часам з'явіцца ў Мінску ў гонар Рэдактара і мемарыяльная дошка. Ужо ўстаноўлена, што наш зямляк нарадзіўся на былой Губернатарскай вуліцы (цяпер скрыжаванне вуліцы Энгельса з праспектам Незалежнасці) у доме, які не ацалеў. А перад самай эміграцыяй Гедройцы жылі на спуску цяперашняй вуліцы Берсана, паблізу Чырвонага касцёла. Хрысцілі ж Ежы ў Кафедральным касцёле, нядаўна пра гэта знойдзены метрычны запіс.


Ежы Гедройц прадбачыў незалежнасць Беларусі

Яшчэ адзін знак ушанавання памяці — штогадовыя прэміі імя Ежы Гедройца для супрацоўнікаў беларускіх СМІ, якія рыхтуюць матэрыялы на тэму беларуска-польскіх стасункаў у галіне культуры, навукі і мастацтва. Сёлета прэміі і ўзнагароды па выніках конкурсу, у якім удзельнічала больш за трыццаць журналістаў, уручаліся ў Польскім інстытуце ў дзявяты раз. Сярод ушанаваных — аўтар кнігі “Беларуская Беласточчына” са Слоніма Сяргей Чыгрын, тэлежурналіст Алег Лукашэвіч (за фільм-аповесць пра Адама Міцкевіча), даследчык супольнай беларуска-польскай гісторыі Уладзімір Давыдоўскі, супрацоўніца газеты “Звязда” Ларыса Цімошык. Штотыднёвік “Голас Радзімы”, дзе штогод друкуецца шэраг артыкулаў пра беларуска-польскае культурнае супрацоўніцтва, адзначаны спецыяльнай узнагародай “за цікаўленасць культурным жыццём Польшчы”.

НАВІНЫ З ТАВАРЫСТВА “РАДЗІМА”

## Хто на Дон?

Міжнародныя Каяльскія чытанні, прысвечаныя гістарычнай бітве князя Ігара і яго дружыны з полаўцамі ў 1185 годзе на Доне і рацэ Калітве, пройдуць у маі ў Растове-на-Доне. З прапановай аб удзеле дэлегацыі Беларусі ў гэтым штогадовым мерапрыемстве нашу краіну наведала кіраўнік Растоўскай рэгіянальнай грамадскай арганізацыі “Маладзёжны цэнтр славянскай культуры”, заслужаная артыстка Дагестана, сябра саюза “Беларусы Дона” Ася Кампаніец. У таварыстве “Радзіма” яна расказала, што фестываль садзейнічае духоўнаму яднанню народаў Беларусі, Украіны і Расіі, адраджэнню ідэй патрыятызму, высокай маральнасці, выхаванню ў моладзі пазітыўнага светаўспрымання.

## І песняй, і словам, і фарбамі

Шэраг цікавых мерапрыемстваў запланавалі на бягучы год беларусы Малдовы. Як паведаміў у таварыства “Радзіма” член Каардынацыйнага савета беларускіх суполак Малдовы Юры Статкевіч, нашы суайчыннікі сёлета будуць удзельнічаць у 9-м этнакультурным фестывалі Малдовы, правядуць чацвёрты фестываль беларусаў Малдовы “Беларусь — мая Радзіма”. Пройдуць і літаратурныя чытанні, прысвечаныя юбілеям вядомых беларускіх пісьменнікаў: да 110-годдзяў Міхася Лынькова і Максіма Лужаніна, 95-годдзя Аркадзя Куляшова, 85-годдзя Васіля Быкава. Плануецца правесці конкурс дзіцячага малюнка “Беларусь вачыма дзяцей”, абсталяваць стэнд “Беларусы Малдовы” ў клубе-музеі “Гвардзеец” г.Кішынёва.

## У Літву на гастролі

Цікавыя формы супрацоўніцтва складваюцца з адміністрацыяй Шальчынінкайскага самакіравання (Літва), якія замацаваны адпаведнай дамовай. Праведзены шэраг сумесных мерапрыемстваў, рэалізавана нямала праектаў. Напрыклад, штогод пры падтрымцы таварыства “Радзіма” творчыя калектывы з Беларусі ўдзельнічаюць у Масленіцы, Дажынках і іншых масавых святах у Шальчынінкайскім раёне. Сваё мастацтва там прадставілі вядомыя ў нас фальклорныя гурты “Цярніца”, “Вярбіца”, “Неруш”, “Радзімічы”, “Тутэйшая шляхта”. Выязджала да суседзяў на гастролі і салістка Нацыянальнага дзяржаўнага акадэмічнага аркестра імя Жыновіча, сябра таварыства “Радзіма” Ніна Кавалёва.

Цяпер таварыства “Радзіма” рыхтуе для літоўскіх сяброў яшчэ адзін цікавы творчы праект. Мы прапануем народным майстрам з Мінска паўдзельнічаць у выставе дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, яна пройдзе ў Шальчынінкаі на Вялікдзень. Дарэчы, там жа народны майстар, мастацтвазнаўца Валянціна Пісарэнка правядзе майстар-клас па роспісу велікодных яек.

**Галіна Навіцкая**, каардынатар праектаў таварыства “Радзіма”

# Дзве сястры

## Яны абедзве былі настаўніцамі і пакінулі добры след на зямлі

Лявон Целеш

Лёс падарыў мне знаёмства з цудоўным чалавекам. Раіса Цімафееўна Куляшова цяпер жыве, як і я, у горадзе Дзяржынску, што кіламетраў за 30 ад Мінска. Нядаўна заслужанай настаўніцы БССР, кавалеру ордэна Працоўнага Чырвонага сцяга споўнілася 90 гадоў, больш за трыццаць з якіх яна аддала школе, дзецям. Як мне падаецца, пра адметную прадстаўніцу настаўніцкай дынастыі, як і пра яе сястру, будзе цікава даведацца і чытачам "Голасу Радзімы".


Лідзія Куляшова ў маладосці

Яшчэ іх дзед па бацькоўскай лініі, сам з прыгонных сялян, малапісьменны, здолеў даць адукацыю ўсім тром сынам. Бацька Раісы, Цімафей Іванавіч, скончыўшы царкоўнапрыходскую школу, ажно 50 гадоў адпрацаваў настаўнікам на радзіме — у вёсцы Смальяны на Аршаншчыне. Педагогам была і маці. І так сталася, што іх першая дачка, Раіса, нарадзілася 3 сакавіка 1919 года… у школьным пакоі ў Смальянах. Прызнацца, чуў я, што дзеці цыркавых артыстаў "нараджаюцца ў пілавінні", гэта значыць на арэне, але вось дзеці настаўнікаў… Як тут не скажаш, што жыццёвы шлях дзяўчынкі быў прадвызначаны?


Сёстры-настаўніцы ў бацькоўскім доме. *Здымак 1950-х гадоў*

Школа, сельгастэхнікум там жа, у Смальянах, потым, перад вайной, — Віцебскі педінстытут. Дарэчы, там вучыўся тады на фізіка-матэматычным факультэце і Пётр Машэраў, якога студэнтка Раіса Куляшова асабіста ведала. Яе, як выдатніцу, перад вайной пакінулі працаваць на інстытуцкай кафедры. Потым — фашысцкая акупацыя. Дарэчы, яе малодшую сястру Лідзію вайна заспела ў Маскоўскім педінстытуце. Яна працавала ў ваенным шпіталі, а па начах яшчэ скідвала бомбы-"зажыгалкі" з дахаў. Адвучыўшыся, Лідзія прыехала выкладаць гісторыю ў Паставы. Туды ж у хуткім часе, настаўніцай хіміі, перабралася і Раіса, як аказалася — надоўга. Званне заслужанай настаўніцы атрымала ў 63-м, а ў 71-м яе падзвіжніцкая праца была адзначана і ордэнам.

У Паставах яна выйшала замуж за Анатоля Ваніна, таксама педагога. Пражылі, як сама гаворыць, "душа ў душу" 56 гадоў, выхавалі двух сыноў, якія атрымалі вышэйшую адукацыю, выбраўшы тэхнічныя спецыяльнасці. Калі ж гады тры таму не стала мужа, Раісу Цімафееўну забралі да сябе жыць сын Сяргей і нявестка Таццяна.

Мы не раз сустракаліся з Раісай


Лідзія Ермаловіч з мужам і дзецьмі


Раіса Куляшова (у цэнтры) з роднымі сустракае Новы 2009 год

Цімафееўнай ва ўтульным пакойчыку, які ёй выдзелілі дзеці. Яна ўдзячная ім за догляд, ганарыцца поспехамі ўнучкі Анастасіі (названа ў гонар прабабкі-настаўніцы), якая ўжо атрымала "чырвоны дыплом" філолага, і ўнука Вадзіма — ён вучыцца на юрыста. Слухаючы нетаропкі аповед жанчыны пра дзяцей, унукаў (усяго іх чацвёра, і ўжо ёсць сем праўнукаў), я прыгадаў міжволі добрую беларускую прыказку: "Якое карэнне, такое і насенне". Мець пашану ад грамадства, увагу і догляд ад родных, радавацца новым парасткам роду — гэта, пагадзіцеся, багаты жыццёвы набытак.

А нядаўна, як сустракаліся, Раіса Цімафееўна мяне па-добраму здзівіла: цудоўна прачытала на памяць знакаміты верш Канстанцыі Буйло "Люблю" (той самы, што стаў народнаю песняю), з веданнем справы гаварыла пра паэзію Янкі Купалы, Сяргея Ясеніна — вельмі ёй захапляецца. Можа, такая цікавасць да жыцця і дае чалавеку сілы, каб пераадольваць яго нягоды?

Загаварылі яшчэ раз пра яе радню, і я зрабіў маленькае адкрыццё. Аказваецца, сястра Лідзія, пра якую мы трохі згадвалі раней, пераехала з Паставаў працаваць у Маладзечна, дзе і выйшла замуж за вядомага гісторыка, пісьменніка Міколу Ермаловіча. Ён, дарэчы, таксама некаторы час працаваў у Маладзечанскім настаўніцкім інстытуце. Пажаніліся яны ў 53-м, пражылі сумесна цікавае жыццё. Іх магілы на могілках у Маладзечне знаходзяцца побач. "Ліда фактычна стала вачыма гэтага выдатнага чалавека, бо, як вядома, зрок у Мікалая Іванавіча быў вельмі дрэнны", — з пяшчотай згадвае сястру Раіса Цімафееўна. Так што і ў кнігу "Па слядах аднаго міфа", і ў шматлікія працы па гісторыі Беларусі ўкладзена нямала ведаў, працы, старання і гісторыка Лідзіі Ермаловіч. Хоць імя яе, мусіць, не ўвайшло ў айчынную гісторыяграфію. Дарэчы, цяпер у Маладзечне, ганаровым грамадзянінам якога быў Мікола Ермаловіч і дзе яму ўстаноўлены помнік, жывуць іх дачка Алена і сын Вячаслаў.

Вось так склаўся лёс дзвюх сясцёр-настаўніц, ад клопатаў і працы якіх на нашай зямлі, я ўпэўнены, стала крыху больш святла.

## Хвалюючае дыханне рэтра

Вольга Багачова

**Работы фатографа Сігізмунда Юркоўскага выдадзены Віцебскім абласным краязнаўчым музеем**

Для папулярызацыі творчасці Сігізмунда Юркоўскага, які ўвайшоў у гісторыю фатаграфіі як вынаходнік шторна-шчылiннага затвора (прататыпа затвораў сучасных фотаапаратаў), выдадзены набор яго фатаграфій у паштоўках. У ім сабраны работы майстра, на якіх адлюстраваны вуліцы, будынкі, панарамы Віцебска апошняй трэці XIX стагоддзя. Знаёмства з імі — яшчэ адзін спосаб здзейсніць займальную экскурсію па горадзе.

У пазамінулым стагоддзі фотаатэлье Сігізмунда Юркоўскага было адным з самых папулярных у Віцебску. Па паслугі да яго звярталіся першыя асобы губернскага горада.

Сам жа Юркоўскі з вялікім азартам "паляваў" на знакамітасцяў. Так, майстру ўдалося зазняць рускага мастака-перадзвіжніка Ілью Рэпіна ў яго майстэрні. Унікальнасць адной з двух такіх фатаграфій, якія захаваліся да нашых дзён, у тым, што на здымку бачны не толькі мастак, яго творчая лабараторыя, але і няскончаная карціна "Спакушэнне Хрыста", якая пазней згарэла.

## Радзіма вачыма дзяцей

**Міжнародная выстава дзіцячага малюнка "На сваёй зямлі" разгорнута ў экалагічным Цэнтры дзяцей і юнацтва ў Мінску**

У экспазіцыі прадстаўлены малюнкі юных мастакоў з Беларусі, Германіі, Грузіі, Індыі, Інданэзіі, Казахстана, Кеніі, Кітая, Тайланда, Турцыі, Украіны, якія аб'ядноўвае тэма радзімы.

Працы для выставы былі адабраны па выніках конкурсу. Як паведаміў старшыня журы Леанід Гоманаў, усяго ў Мінск даслана больш за дванаццаць тысяч твораў, з якіх і вылучаны лепшыя.

ПАДАРОЖНАЕ

# У Пількаўшчыну, да Максіма Танка

**Нядаўна з групай маладзечанскіх літаратараў я быў у захапляльнай паездцы на радзіму Максіма Танка (Яўгена Скурко) — у вёску Пількаўшчына, што на Мядзельшчыне. У час падарожжа пазнаваў, адкрываў новыя звесткі пра гэтага таленавітага паэта і добрага чалавека.**

Маршрут пралягаў па вёсках, якія маюць дачыненне да лёсу пісьменніка, мы наведалі могілкі і пабывалі на цікавай сустрэчы.

**Вёска Сваткі.** Юны Яўген Скурко тут да вайны вучыўся ў пачатковай школе. Таму сённяшняя школа з поўным правам мае гонар насіць імя Максіма Танка. Яго ж імем названа вуліца.

**Вёска Новікі,** раней называлася Слабадой. У 1943 годзе фашысты тут спалілі ўсе будынкі. Адсюль родам Любоў Андрэеўна Асаевіч, верная спадарожніца жыцця і памочніца Максіма Танка. Каля вёскі, дарэчы, для падарожнікаў ёсць указальнік: "Пількаўшчына — 6".

**Пількаўшчына.** Раней у гэтай вёсцы жыла сям'я бацькоў паэта, у якой было, як тады казалі, 14 едакоў. 17 верасня 1912 года тут нарадзіўся Яўген Скурко. Хата яго бацькоў захавалася. Цяпер у ёй жыве малодшы брат Яўгена Іванавіча — Хведар, які ветліва нас сустрэў ля парога, каля тоўстага ўжо дуба. Хведар Іванавіч расказаў нам, што дрэва пасадзіў іх бацька дзесьці ў 1922 годзе, калі сям'я вярнулася з Масквы з бежанства. Потым садзілі арэшыны і ліпы ўздоўж дарогі ад хаты да лесу. А хата, па словах гаспадара, прастаяла ўжо каля 150 гадоў, будавалі ж яе з яловых бярвёнаў.

**Слабодскі пагост,** бліжэйшыя да Пількаўшчыны могілкі. Тут паводле апошняй волі народнага пісьменніка Беларусі побач з жонкай і бацькамі пахаваны Максім Танк. Ён прасіў, каб на апошнім развітанні не было нічога лішняга, паказнога, нават музыкі. Сёння побач узвышаюцца два чорныя крыжы з надпісамі і аднолькавымі датамі: "Максім Танк. 1912–1995"; "Любоў Скурко. 1912–1995". Два падобныя крыжы, два блізкія лёсы… Крыху далей — апошні прытулак бацькоў: Домна Іванаўна і Іван Фёдаравіч, іншыя родзічы. Сям'я нібы з'ядналася ў роднай зямлі.

**Імпрэза.** Паездка закончылася сустрэчай, на якой думкамі пра паэта дзяліліся розныя людзі. Дырэктар бібліятэкі імя Максіма Танка з Мядзеля Людміла Несцяровіч гаварыла пра запаветы земляка. Старшыня ветэранскай арганізацыі Мядзельскага раёна Міхаіл Гардон – пра яго ж як Героя Сацыялістычнай Працы і лаўрэата шматлікіх прэмій. Тамара Кручэнка з "Гомельскай праўды" аб тым, як яе бацька іграў на вяселлі Максіма Танка, а пасля вайны вазіў яе "глядзець на паэта". Аркадзь Жураўлёў і Міхась Казлоўскі, літаратары з Маладзечна, прыгадалі, што пара падумаць аб стварэнні на радзіме музея паэта і адкрыцці адпаведнага турысцкага маршрута. Хочацца верыць, што ўсё гэта будзе.


Партрэт Максіма Танка. Рэпрадукцыя з паштоўкі 1958 г.

**Сяргей Цімошка,**
выкладчык Маладзечанскага політэхнічнага каледжа

# Хараство лазовых узораў

## Алена Гурэцкая стварае са звычайных пруткоў арыгінальныя і прыгожыя рэчы

**Людміла Мінкевіч**

Гадоў дванаццаць таму Алена і не задумвалася нават, якія прыгожыя рэчы можна зрабіць з лазовых пруткоў. Але неяк заўважыла, што вельмі ўжо ўдала ўпрыгожваюць сучасныя інтэр'еры падносы, вазы і нават арыгінальныя куфры з гэтага матэрыялу, а таксама лазовыя бутэлькі і званочкі. І вось сёння вялікую калекцыю работ самой Алены Гурэцкай бачаць шматлікія экскурсанты ў музеі "Дудуткі" пад Мінскам. Апошнія восем гадоў яна заўсёды плённа працуе ў імправізаваным "Горадзе майстроў" на "Славянскім базары ў Віцебску", з 2002-га — удзельнічае ў рэгіянальных, рэспубліканскіх і міжнародных выставах і фестывалях. Талент, прыхаваны да пары да часу, мабыць, у генах — беларусы працуюць з лазой спрадвеку — раскрыўся хутка, яе прынялі ў Беларускі саюз майстроў народнай творчасці. Летась жа атрымала грант і цяпер рыхтуе творы для экспазіцыі ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі. Разам з тым выкладае ў Мінскім каледжы дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва імя М.Кедышкі.

"Канешне, не заўсёды ўсё атрымлівалася, — прызнаецца накont свайго майстэрства Алена. — Але калі шмат працуеш, то адточваюцца прыёмы, з'яўляецца вопыт". Сёння Алене Гурэцкай хапае і чатырох гадзін, каб сплесці прыгожы кошык. Але перад гэтым трэба нарыхтаваць добры матэрыял. Да таго ж, гаворыць, неабходны ў дадатак цішыня, спакой, асаблівы настрой, жаданне тварыць... "Іншым часам неабходна бліжэй пазнаёміцца і з аб'ектам працы", — Алена паказвае фотаздымак аднаго са сваіх лазовых буслоў. Больш за год яна збірала пра гэту прыгожую птушку разнастайную інфармацыю… Наведвала заапарк, рабіла там фотаздымкі. Таму і атрымаўся ўрэшце лазовы бусел, вышынёй з майстра, як жывы: стройны, з доўгай дзюбай і размашыстымі крыламі.

Адна з апошніх работ Алены — прыгожыя рамонкі, зробленыя спецыяльна да пачатку вясны. "Людзі ўбачаць іх і, мусіць, адразу ўсміхнуцца", — спрабуе яна зірнуць у будучыню сваіх лазовых "сонейкаў". Больш стандартныя Аленіны работы — гэта кошыкі і карзіны. У кожнай з гэтых прыгожых рэчаў ёсць адметная форма, а таксама характар, і нават імя. Дарэчы, некаторыя кошыкі названыя ў гонар першых пакупнікоў: Таццяна, Яніна, Алёнка... Творы Алены зацікавілі і венесуэльцаў, якія захапляліся імі падчас паездкі беларускіх майстроў за акіян: шмат розных арыгінальных формаў — а стыль адзіны! Да таго ж многія са сваіх работ Гурэцкая ўпрыгожвае ўстаўкамі з рагозу, саломкі, каштанамі і керамічнымі пацеркамі, а яшчэ старадаўнім спіральным пляценнем "лаза па лазе", што надае рэчам яшчэ большую дэкаратыўнасць і вытанчанасць.

Я бачыла Алену ў рабоце і заўважыла, як ювелірна яна працуе, пазбягаючы нейкіх хібаў у гатовым вырабе. І як беражліва абыходзіцца з лазой. "Калі яна, гэтая гнуткая прыгожая кветачка, бывае, зломіцца падчас працы, недзе ўнутры мяне быццам струна ірвецца… Што для мяне лозапляценне? Пэўна, само жыццё…", — прызналася, калі мы паглыбляліся ў духоўны змест яе справы. Дарэчы, цікавіцца Алена яшчэ вышыўкай, пляценнем паясоў, нацыянальнымі строямі. А з цягам часу частка яе творчасці станучь, магчыма, кераміка і жывапіс. Я бачыла ўжо на рабочым стале Алены побач з лазовымі вырабамі зробленую ёю гліняную падстаўку для алоўкаў і арыгінальны кветкавы малюнак...



У кожным з вырабаў майстра Алены Гурэцкай — свая эстэтыка і прыгажосць

# Міншчына запрашае ў госці

**Надзея Радзівон**

**У сталічнай вобласці распрацавана больш за сто пяцьдзесят турысцка-экскурсійных маршрутаў**

Сярод іх найбольшай папулярнасцю летась карысталіся "Сем цудаў Міншчыны", "Навагодняя зорная прыгода Дзеда Мароза", аглядныя экскурсіі па гісторыка-культурным комплексе каля Заслаўя і Музеі старадаўніх народных рамёстваў і тэхналогій "Дудуткі".

Гістарычныя гарады Нясвіж, Заслаўе, Бярэзінскі біясферны запаведнік (якому нададзены статус міжнароднага), нацыянальны парк "Нарачанскі" і іншыя славутыя мясцы летась наведала семнаццаць тысяч замежных гасцей. Усяго ж больш за дзвесце тысяч турыстаў пазнаёміліся з культурай і гістарычнай спадчынай вобласці.

Для таго, каб жадаючыя змаглі даведацца пра рэгіён як мага больш, выдадзены рэкламна-інфармацыйныя буклеты "Па зямлі старажытнай Случчыны", "Ад Мінска да Клецка", "Міншчына спартыўная", "Барысаўскі трыкутнік", "Ад Лагойскіх гор да Мар'інай Горкі", "Актыўны турызм у Мінскай вобласці", "Спазнай Міншчыну", "Патрыятычны маршрут", "Сядзібнае кальцо".

КРЫЖАВАНКА

# Краіна замкаў

**Па гарызанталі:**

1. "Непрыступны ...". Так некалі называлі г. Слуцк за яго добра ўмацаваныя замкі і адважных абаронцаў. 5. ..., ці сукня. Даматканая спадніца. 7. У старыя час: месца ўезду ў горад. 8. Летапісная назва г. Оршы, дзе паводле загаду Вялікага князя ВКЛ Вітаўта быў пабудаваны замак. 9. Шчыльныя вароты пры ўездзе на тэрыторыю замка, сядзібы і інш. 10. Старадаўняя колючая зброя. 12. Тое, што і зброя, гармата (састар.). 13. Ян .... Магнат ВКЛ, які пачаў будаўніцтва замка ў Любчы (Навагрудчына). 14. Драпежная птушка. 18. Кісла-малочная мучная страва. 20. Вастрыё колючай ці рэжучай зброі. 22. Гарадскі пасёлак на Магілёўшчыне, які славіўся сваім замкам з пяццю бастыёнамі. 24. Нашэнне адзення. 27. Назва герба магнацкага роду Чапскіх. 28. "Ля Навагрудка, на ўздыбленых гарах, — ... у месяца срэбным зіхценні". З паэмы А. Міцкевіча "Гражына". 31. Горад, у якім на беразе Сажа ўзвышаўся магутны замак. 34. Тое, што і дверʼе. 35. Абломак ганчарнага вырабу, адзін са здабыткаў археолагаў пры раскопках. 36. Урачыстыя верш. 37. Тое, што прыдбана; скарб. 38. Тое, што і генеалогія. 39. Галоўнае прызначэнне беларускіх замкаў у Сярэднявеччы.

**Па вертыкалі:**

1. Абаронча агароджа ў выглядзе частакола. 2. Горад на Міншчыне, дзе збярогся замак, узведзены Мікалаем Радзівілам (Сіроткай). 3. Умацаваны "прыгарад", які стаяў перад замкам у г. Дуброўна, а таксама ў іншых месцах Беларусі. 4. Старадаўняя назва месца, дзе стаяў Мінскі замак (цяпер раён станцыі метро "Няміга"). 6. Скураныя рукавіцы з доўгімі халявамі. 7. Задняя частка павозкі і інш. 9. Бой, альбо .... 11. Акружэнне варожым войскам замка з мэтай яго захопу. 12. Склад зброі ў замку. 15. Замак-.... Добра ўмацаваны тып замкаў, да якіх адносіўся і Лідскі, пабудаваны ў XIV ст. 16. Даўняя мера сыпучых, вадкіх рэчываў. 17. ..., альбо прывід. Начны "жыхар" у некаторых замках. 19. Доўгі земляны насып, які апаясваў Крэўскі, Заслаўскі, Нясвіжскі і інш. замкі. 21. Адзін з відаў ручной зброі абаронцаў замкаў. 22. Вёска на Ашмяншчыне, дзе знаходзяцца руіны замка. Сугучная з назвай замка ў адным з вядомых раманаў Ул. Караткевіча. 23. Пад'ёмны мост на ланцугах. 25. Белая вежа, ці ... — унікальны помнік абарончага дойлідства ў райцэнтры Камянец. 26. Старажытная зброя, дзіда з фігурнай сякеркай. 29. Падатак, альбо чынш (гіст.). 30. "Начальнік" над авечкамі. 32. "... сярэдневякоўя". Такую назву атрымаў у былыя часы Мірскі замак — жамчужына Беларусі. 33. Горад на Нёмане, Стары замак якога будзе адрэстаўраваны ў выглядзе каралеўскай рэзідэнцыі XVI ст.

**Склаў Лявон Целеш, г. Дзяржынск**



**Адказы на крыжаванку**

**Па гарызанталі:**

1. Бастыён. 5. Андарак. 7. Застава. 8. Рша. 9. Брама. 10. Дзіда. 12. Армата. 13. Кішка. 14. Каршак. 18. Кваша. 20. Джала. 22. Глуск. 24. Носка. 27. "Ляліва". 28. Замак. 31. Гомель. 34. Давер. 35. Чэрап. 36. Ода. 37. Набытак. 38. Радавод. 39. Абарона.

**Па вертыкалі:**

1. Баркан. 2. Нясвіж. 3. Падзамак. 4. Замчышчы. 6. Крагі. 7. Задок. 9. Бітва. 11. Асада. 12. Арсенал. 15. Кастэль. 16. Фаска. 17. Здань. 19. Вал. 21. Лук. 22. Гальшаны. 23. Узвод. 25. Стоўп. 26. Алебарда. 29. Аброк. 30. Аўчар. 32. Кветка. 33. Гродна.

**Заснавальнік:** Рэдакцыя газеты «СБ»
**Рэдактар** Віктар Харкоў
**Адрас:** пр. Незалежнасці, 44, Мінск, 220005
**Рэгістрацыйнае пасведчанне № 61**
**Тэлефон рэдакцыі:** +375 17 288—12—80; факс: +375 17 288—12—80
**Бюро па рэкламе:** Тэл. +375 17 290—60—11
**E—mail:** golas_radzimy@tut.by
Газета надрукавана ў Рэспубліканскім унітарным прадпрыемстве «Выдавецтва «Беларускі Дом друку»
**Аб'ём выдання:** 1 друк. арк.
**Тыраж:** 2000
**Заказ:** 436
Пазіцыі рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках "Голасу Радзімы", могуць не супадаць.